МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**№12** (140)
**снежань 2013**



# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ У КАНАДЗЕ!

Гутарка з Валянцінай Шаўчэнка.

*Чытайце на стар. 2-3*

### РАДЗІМ ГАРЭЦКІ: ДАЙСЦІ ДА БЕЛАРУСКАЙ БЕЛАРУСІ

Не толькі ў гісторыі нашай краіны шмат знакавых падзей, выбітных людзей. Адзін з тых, хто працягвае ствараць Беларусь, — Радзім Гарэцкі.

*Чытайце на стар. 4-5*

### ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР "БЯЗМЕЖЖА" АДБЫЎСЯ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

На запрашэнне беларусаў Беласточчыны з Беларусі прыехалі некалькі дэлегацыяў і паасобных творцаў.

*Чытайце на стар. 6*

### БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ МУСІЛА Б БЫЦЬ СІМВАЛАМ УНІВЕРСІТЭТА Ў БЕЛАСТОКУ

Размова з прафесаркай Галінай Тварановіч, кіраўніцай кафедры беларускай філалогіі філалагічнага факультэта Універсітэта ў Беластоку.

*Чытайце на стар. 7*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШУЕМ НІНУ ШЫДЛОЎСКУЮ!



***1 студзеня юбілей адзначае Ніна Шыдлоўская, старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына".***



Сябры Управы, супрацоўнікі Згуртавання, калектыў кампаніі "Будзьма беларусамі!", паплечнікі і партнёры ад усёй душы віншуюць шаноўную і дарагую юбілярку са святам!

Зычым сонечнага настрою, жыццёвай радасці і пазітыўных падзеяў! Няхай удача суправаджае кожнае пачынанне, а задумы заўсёды здзяйсняюцца! Хай Вам заўсёды спадарожнічае любоў, дабрабыт і поспех!

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў студзені: **Ірыну Віданаву, Алега Дашкевіча, Вольгу Іпатаву, Міколу Купаву, Алеся Лагвінца** (Беларусь), **Алесю Кіпель** (ЗША), **Зінаіду Клыга** (Эстонія).

Зычым шаноўным імяніннікам нязменнага шчасця, гумору, моцнага здароўя, радасці і заўсёднага дабрабыту!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ВІНШУЕМ СА СВЯТАМІ!

***Шаноўныя сябры!***

***Управа і супрацоўнікі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" шчыра віншуюць вас з Калядамі і Новым годам!***

***Няхай у вашым доме пануюць мір і згода, спагада і любоў, а ў любое надвор'е вас саграе святло вашых сэрцаў і сонечныя ўсмешкі блізкіх!***

***Зычым, каб спраўдзіліся вашыя Калядныя чаканні! Каб Новы год прынёс вам радасць і натхненне, задавальненне ад працы на сваю і грамадскую карысць, а нашай любай Беларусі — волі, дабрабыту і росквіту!***



# ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ АДЗНАЧЫЛА 65-ГОДДЗЕ




*Пётра Мурзёнак, Надзея Дробіна, Валянціна Шаўчэнка і Зміцер Эльляшэвіч*

1 снежня беларусы Канады адсвяткавалі 65-годдзе старэння Згуртавання беларусаў Канады (ЗБК). Перад пачаткам святочнай часткі адбылася супольная малітва за душы ўсіх спачылых сяброў Згуртавання, а таксама ўдзельнікаў Слуцкага збройнага чыну.

Сёлета імпрэза праходзіла ў фармаце вялікага супольнага Дня Народзінаў. Да сяброў Згуртавання, што сабраліся ў вялікай залі ЗБК, звярталіся з віншаваннямі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў з усяго свету.

Адкрыў свята запіс святочнай прамовы Прэзідэнта Рады БНР Івонкі Сурвіллы, у простым эфіры прагучалі віншаванні Змітра Дашкевіча (Малады Фронт), Паўла Севярынца (БХД), Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", Ганны Сурмач (БАЗА) ды Хведара Нюнькі (Таварыства беларускай культуры, Вільня). Таксама ў запісе прагучалі віншаванні сябраў дыяспары ў Канадзе, якія не змаглі прысутнічаць: Марыі Ганько і Вольгі Грыцук.

Былі ўзгаданыя першыя гады па стварэнні ЗБК, калі паваенныя іміґранты ахвяравалі літаральна апошнія цэнты і багата свайго часу, каб стварыць беларускі асяродак удалечыні ад Бацькаўшчыны. Былі прадэманстраваныя архіўныя дакументы: устаноўчыя паперы, першыя заявы аб уступленні ў Згуртаванне. Успаміналі ўсіх старшыняў ЗБК, іхны ўнёсак у агульную справу Беларушчыны.

Напрыканцы імпрэзы грамада паглядзела лекцыю айца Леаніда Акаловіча, прымеркаваную да 93-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну.

Па заканчэнні імпрэзы некаторыя сябры накіраваліся да консульства Украіны ў Таронта, каб выказаць сваю падтрымку братняму народу на мітынгу ўкраінскае дыяспары за еўрапейскі выбар Украіны.

*Прэс-служба ЗБК*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ У КАНАДЗЕ! ГУТАРКА З ВАЛЯНЦІНАЙ ШАЎЧЭНКА

28 лістапада Згуртаванню беларусаў Канады споўнілася 65 гадоў. Безумоўна, гэта вялікі тэрмін для арганізацыі, і не можа не цешыць тое, што і сёння арганізацыя працягвае актыўную працу. Напярэдадні юбілею мы пагутарылі са Старшынёй Згуртавання беларусаў Канады Валянцінай Шаўчэнка аб жыцці і набытках арганізацыі, аб планах на будучыню.

**"Бацькаўшчына"**: Набліжаецца цудоўны юбілей, 65-годдзе Згуртавання беларусаў Канады. З чым сустракае Згуртаванне такі юбілей, з якімі набыткамі?

**Валянціна Шаўчэнка**: Галоўным набыткам я лічу тое, што, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, Згуртаванне беларусаў Канады жыве і працягвае традыцыі тых, хто гэтую арганізацыю заснаваў, застаецца верным ідэалам 25 Сакавіка. На маю думку, ЗБК з'яўляецца адной з самых актыўных беларускіх суполак свету.

**"Бацькаўшчына"**: 65 гадоў – гэта цэлая эпоха, Згуртаванне аб'ядноўвае беларусаў розных пакаленняў і, напэўна, вырасціла не адно пакаленне. Распавядзіце пра моладзь ЗБК.

**ВШ**: На жаль, да нас далучаецца няшмат моладзі, але ж тая, што далучылася, – гэта цудоўныя хлопцы і дзяўчаты. Гэта Піліп і Аліна Тананкі, Алена Лявончанка, Ірына Тоўсцік і Зміцер Доўнар, Аляксандра Саленік, Алесь Бычынскі, Сяргей Вашкевіч, Алеся Манькоўская і шмат іншых. Сучаснасць уносіць свае карэктывы ў жыццё, рытм яго змяніўся, змяніліся і сродкі камунікацыі, але ж, нягледзячы на гэта, маладым людзям патрэбныя жывыя зносіны. Яны хочуць, каб іх дзеці размаўлялі па-беларуску, каб спявалі беларускія песні, каб раслі беларусамі. І, што вельмі важна, на іх можна заўсёды абаперціся, папрасіць дапамогі, падтрымкі ці проста паразмаўляць. Некаторыя маладыя хлопцы і дзяўчаты нават не з'яўляюцца сябрамі ЗБК, але ж часам яны бяруць у нашым жыцці такі вялікі ўдзел, што фармальнае сяброўства ў арганізацыі ўжо не мае ніякага значэння. І, шчыра кажучы, для мяне няважна, ці з'яўляецца чалавек сябрам ЗБК, – галоўнае, што ён адчувае сябе беларусам. А такое адчуванне ў нас падзяляе ўся моладзь. Калі гэтым летам мы пачалі аднаўляць Беларускі Крыж, было вельмі прыемна назіраць, як працуюць браты Стэфановічы. Гэтыя два хлопцы, 13-ці і 16-ці гадоў, дапамагалі з такім энтузіязмам, што было відавочна: ніякія электронныя гульні не могуць параўнацца з магчымасцю ўзяць удзел у супольнай працы.

**"Бацькаўшчына"**: Як Вы лічыце, чаму беларусы, якія жывуць у Канадзе сёння і якіх відавочна шмат, не далучаюцца да дзейнасці таварыства? І што, на Вашую думку, трэба зрабіць, каб прыцягнуць іх?

**ВШ**: Выглядае, што гэта праблема не толькі беларусаў. Я сустракалася з сябрамі сербскай, румынскай, польскай і іншых суполак – паўсюль паўстае тое самае пытанне: як далучыць новых людзей да грамадскага жыцця. Але ж, наколькі мне здаецца, такая сітуацыя

*Пачатак. Працяг на с.3*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ У КАНАДЗЕ! ГУТАРКА З ВАЛЯНЦІНАЙ ШАЎЧЭНКА

*Працяг. Пачатак на с.2*

цяпер па ўсім свеце. І наагул, калі разглядаць псіхалогію чалавека, дык усяго некалькі адсоткаў жыхароў любой краіны з'яўляюцца актыўнымі, астатнія людзі проста жывуць сваім жыццём і ўключаюцца ў нейкія рухі ці грамадскую дзейнасць толькі тады, калі закранаюцца такія важныя рэчы, як рэлігія, здароўе ці жыццё. Можаце прадоўжыць самі, зыходзячы з сучаснай сітуацыі ў Беларусі. Пакуль што ў Канадзе гэтыя пытанні не паўстаюць, і таму людзі жывуць сваім жыццём – шмат працуюць, гадуюць дзяцей, а сувязь з Радзімай трымаюць праз віртуальную прастору ці амаль што кожны год наведваюць родных і сяброў. Гэта раней, для эміграцыі пасляваеннага пакалення, калі немагчыма было нават падумаць пра тое, што калі-небудзь удасца наведаць Бацькаўшчыну, нацыянальная суполка замяняла людзям сваякоў, што засталіся на Радзіме, – і таму значна больш людзей бралі ўдзел у дзейнасці ЗБК. Трэба дадаць, што, на жаль, "дзякуючы" шматгадовай русіфікацыі Беларусі, многія людзі страцілі сваю нацыянальную ідэнтыфікацыю і часам не лічаць сябе беларусамі. Таксама, на маю думку, у нашых людзей ёсць трывалы імунітэт супраць грамадскага жыцця, які сфарміраваўся ў часы СССР, – таму яны не хочуць далучацца да якой-небудзь арганізацыі. Але ж, нягледзячы на ўсё пералічанае, ёсць шмат актыўных людзей, якія ўкладаюць душу ў дзейнасць ЗБК, ахвяруюць свой час і грошы на тое, каб арганізацыя працягвала існаваць. Віялета Кавалёва, Наталля Колас, Юрка Шаўчэнка, Зміцер Леановіч, Андрэй Бабко, Надзея Дробіна, Ігар Фялюшкін, Вольга Манькоўская, Алесь Кот, Юрка Рапецкі, Зміцер Эльяшэвіч, Слаўка Кавалёў, Петра Мурзёнак, Юрка Шамецька, Руслан Качаткоў – спіс можна і трэба прадоўжыць.

Што зрабіць, каб больш далучалася людзей? Мне здаецца, трэба больш праводзіць культурных мерапрыемстваў, ствараць клубы па інтарэсах, рабіць нешта такое, што аб'ядноўвае людзей. Цудоўным прыкладам такой дзейнасці ёсць фолк-гурт "Яваровы людзі", удзельнікі якога не толькі спяваюць і танчаць, але ж з часам становяцца актыўнымі сябрамі нашага таварыства. Трэба ладзіць нефармальныя акцыі – пасля таго, як мы ўзнялі бел-чырвона-белы сцяг над Таронта, да нас далучыліся некалькі маладых хлопцаў, так ім спадабалася гэтая акцыя. Адно ведаю дакладна – нельга стамляць людзей доўгімі прамовамі ці кідацца лозунгамі, гэты шлях ужо не працуе. Трэба шукаць сучасныя сродкі размовы ці агітацыі.

**"Бацькаўшчына"**: Як для Вас асабіста пачынаўся шлях у ЗБК?

**ВШ**: Вы будзеце здзіўленыя, але ж мой шлях у ЗБК пачаўся каля 40 гадоў таму. Маю сяброўку як дачку афіцэра вызвалілі ад вывучэння беларускай мовы. Я прыйшла са школы і папрасіла свайго бацьку, каб мяне таксама вызвалілі, бо, як і большасць дзяцей, я не вельмі хацела вывучаць родную мову. Бацька неяк сцямнеў тварам і сказаў – вельмі спакойна, але ж так, што я памятаю гэта праз усе гады: "Родную мову вывучаць будзеш, бо ты – беларуска". І вось гэта – "ты беларуска" – і прывяло мяне ў ЗБК. Прывяло праз любоў да ўсяго таго, што мой бацька ўклаў тады ў свае словы, праз удзел у шматлікіх дэманстрацыях і мітынгах на Бацькаўшчыне, праз надзею і расчараванне, праз рашэнне з'ехаць у эміграцыю... Пра ЗБК мы даведаліся яшчэ ў Мінску ад нашага сябра-мастака, і калі прыехалі ў Канаду на пачатку сакавіка 1998 года – адразу пазванілі сп. Міколу Ганьку. І ўжо праз некалькі тыдняў наша маленькая дачка чытала беларускі верш на святкаванні Дня Волі. Вось так, праз гады, словы "ты – беларуска" вярнуліся, і так пачаўся ці працягнуўся мой шлях у ЗБК. Але ж я б хацела дадаць, што гэта не мой шлях, гэта шлях супольны для мяне і майго мужа Юркі, без падтрымкі і дапамогі якога было б цяжка выконваць абавязкі Старшыні ЗБК.

**"Бацькаўшчына"**: Што для Вас значыць праца ў гэтай арганізацыі?

**ВШ**: Шчыра кажучы, я не ўяўляю сабе нашае з Юркам жыццё ў Канадзе без ЗБК. Для нас праца ў гэтай арганізацыі азначае магчымасць сустракацца з сябрамі, магчымасць дапамагаць людзям тут, у Канадзе, і падтрымліваць аднадумцаў на Бацькаўшчыне. Гэта магчымасць захавання беларускай мовы, традыцый і культуры ў канадскім асяроддзі. Гэта магчымасць выказаць сваю палітычную і грамадскую пазіцыю і падтрымаць дэмакратычныя працэсы ў Беларусі. Гэта магчымасць мець цікавае жыццё, адчуваць сваю запатрабаванасць. Ведаеце, у гэтым годзе мы шмат часу аддалі на тое, каб аднавіць беларускі Крыж. Юрка зрабіў яго сваімі рукамі – а трэба дадаць, што вышыня Крыжа 4 з паловай метры, ён уяўляе сабой даволі складаную інжынерную канструкцыю. Гэта заняло шмат часу і сіл, але ж трэба было бачыць шчаслівыя твары людзей, калі Крыж паўстаў і яго асвяціла сонца. І я зразумела, што праца ў ЗБК дае ўнікальную магчымасць рабіць жыццё людзей трохі святлейшым і весялейшым, магчымасць зрабіць наш свет лепшым.

**"Бацькаўшчына"**: Якімі асноўнымі здабыткамі таварыства вы ганарыцеся?

**ВШ**: Перш за усё, гэта тое, што ЗБК ведаюць як у Канадзе, так і на Бацькаўшчыне. Я ганаруся тым, што мы працягваем справу, якая пачалася 65 гадоў таму, што ЗБК ладзіць культурныя мерапрыемствы і палітычныя акцыі, на якія прыходзіць шмат людзей. Ганаруся тым, што ў нас існуе фолк-гурт "Яваровы людзі", жаночы клуб "Гузік". Тым, што новае пакаленне наведвае нашыя імпрэзы і дапамагае тым ветэранам ЗБК, якія па стане здароўя ўжо не могуць бываць у нашым цэнтры, – гэта вельмі важна. Ганаруся тым, што жыве Беларусь у Канадзе!

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## НАВІНЫ

# У КАРАЛЯЎЦЫ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

Амаль чатыры сотні гледачоў прыйшлі у Палац культуры моладзі Калінінграда (Караляўца) ушанаваць памяць нашага нацыянальнага героя Вікенція Канстанціна Каліноўскага. Паводле статыстыкі Каралявец – "самы беларускі" горад Расіі, хаця большасць нашых землякоў ужо ў другім пакаленні лічаць сябе "калінінградцамі". Публіка была даволі стракатай: тут былі і пажылыя людзі, для якіх Беларусь атаясамліваецца з краінай, якой на сучасных мапах ужо няма – гэта "Белоруссія" з Песнярамі, БелАЗамі, "Лявоніхай", партызанамі і гэтак далей; была і моладзь – нешматлікая, але якая мае досвед змагання за незалежнасць, за мову і нацыянальныя святыні. Сама імпрэза сваёй канцэртнай праграмай збольшага была разлічана на апошніх. Распачалі урачыстасць каралявецкія музыкі вядомымі творамі беларускіх кампазітараў і паэтаў: "Малітва", "Чырвоны касцёл" і інш. Потым словы пра Кастуся Каліноўскага казалі старшыня таварыства Ігар Шаховіч, віцэ-консул Рэспублікі Літва Романас Сянапедзіс. Падтрымаць імпрэзу прыехаў наш даўні сябар – паэт, бард, актор Віктар Шалкевіч. На заканчэнне ўпершыню ў нашым горадзе даў свой канцэрт выдатны калектыў з Горадні "Людзі на балоце". Моладзь фатаграфавалася на сцэне з бел-чырвона-белым сцягам. Нас чакаў добры працяг – вячэра, якая заўсёды дае магчымасць падвысіць тэмпературу нашых адносін да узроўню сяброўскіх. Жыве Беларусь!

***Ігар Шаховіч***

# Радзім Гарэцкі: дайсці да беларускай Беларусі

Не толькі ў гісторыі нашай краіны шмат знакавых падзей, выбітных людзей. Адзін з тых, хто працягвае ствараць Беларусь, — Радзім Гарэцкі. Ён прэзідэнт МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" з 1993 па 2001 г., сябра Рады Згуртавання, акадэмік НАН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі БССР, грамадскі дзеяч, аўтар многіх навуковых ды публіцыстычных прац. Ён маральны аўтарытэт і жыццёвы арыенцір для многіх.

Нядаўна — 7 снежня — Радзіму Гарэцкаму споўнілася 85 гадоў. Гэта стала добрай нагодай распытаць у Радзіма Гаўрылавіча пра жыццё і шлях да Беларусі, пра дзейнасць у Згуртаванні беларусаў свету "Бацькаўшчына" і шмат пра што яшчэ. Аповед Радзіма Гаўрылавіча прапануем увазе чытачоў.




### Дзяцінства ў рускамоўным асяродку

Мой шлях да беларускай мовы быў няпросты. Я нарадзіўся ў Мінску, але мяне вывезлі разам з бацькамі: іх арыштавалі, як вядома, і мы паехалі на Салаўкі. Калі я з'ехаў з Мінска, мне было прыблізна гады чатыры, так што я не паспеў мову вывучыць.

Бацька і маці мае заўсёды размаўлялі і пісалі адно аднаму па-беларуску. А мяне збольшага гадавалі бабуля і дзядуля па маці. Яны таксама беларусы, родам з Беластока, але былі рускамоўныя, хоць і разумелі беларускую мову. І таму я чуў рускую мову, бо асяродак быў рускамоўны. Бацька ж спачатку сядзеў у турмах, потым быў увесь час у камандзіроўках, і можна сказаць, што я сутыкнуўся з маленечкім беларускамоўным асяроддзем ужо калі мы жылі разам з бацькам і з маці, а гэта здарылася толькі калі я ўжо быў, мусіць, у восьмым класе, то бок досыць дарослым хлопцам.

Мы жылі тады на Урале, у горадзе Чусавым на рэчцы Чусавая. Гэта было пасля нашай эвакуацыі, у канцы вайны.

У нас сям'я была добрая, бацькі былі ласкавыя і вельмі да нас добра ставіліся, як да дарослых, ніколі не лаялі. Бацька працаваў геолагам і ўвесь час быў у камандзіроўках, у экспедыцыях, але мы ўжо жылі разам, і я пачуў родную мову. Праўда, мова ў бацькоў была не зусім такая, як цяпер, а бліжэйшая да тарашкевіцы, бо бацька мой 1900-га года нараджэння, маці — 1902-га.

### Шлях да беларускай мовы

Вялікае ўражанне на мяне рабіла Беларусь, якой я не ведаў тады. Бацька заўсёды любіў, калі мая маці ці бабуля гатавалі, напрыклад, бульбачку са скваркамі. Казаў тады: "Ох якая смачная, ну проста як у Багацькаўцы!" А які-небудзь вінаград, які я вельмі любіў, бацька не прызнаваў. Я дзівіўся гэтаму, а ён тлумачыў: "Ды ў нашай Багацькаўцы не было такога, таму і не люблю". І мне гэта запала ў галаву — а я ж яшчэ юнак быў: ну што гэта за Багацькаўка такая, якая на бацьку так уплывала?

Памалу ўбіралася мной беларуская мова ад бацькоў, а ў астатнім асяроддзе было чыста рускае. Бацька мне таксама пісаў лісты па-беларуску, тут ужо прачытаеш абавязкова, а з часам і я пачаў трошку гаварыць і пісаць: бацьку ж трэба было адказаць. Так я класе ў дзясятым, а можа, студэнтам ужо, пачаў патрошку размаўляць і пісаць. Вядома, мова была яшчэ дрэнная, таму што я яе толькі на слых ведаў, але патрошку ўцягнуся, пачаў разумець.

Мой брат, старэйшы за мяне на чатыры гады, беларускую мову ведаў больш, таму што ён у Мінску вучыўся да другога класа. Мы з ім студэнтамі жылі ў Маскве адны, без бацькоў. Я паступіў у нафтавы інстытут, а ён — у педагагічны, на літаратуразнаўства. Мы пачалі гаварыць па-беларуску паміж сабой.

Неяк здарыўся цікавы выпадак. Калі я быў студэнтам і вучыўся, мусіць, на другім курсе, прыйшоў да нас вайсковец-аспірант. Калі ён пачаў гаварыць, я чую — ну такі ўжо акцэнт беларускі! Кажу: "Аляксандр Сямёнавіч, ты ж, відаць, з Беларусі?" Ён: "Так, з Беларусі". І я пачаў да яго звяртацца па-беларуску, але ён са мной усё адно толькі па-руску гаварыў. І што цікава: у мяне беларуская мова гучала як маскоўская, а ён са мной гаварыў па-руску, але з такім выдатным беларускім гучаннем, што калі здалёк нас паслухаць, то адразу здавалася, што я гавару па-руску, а ён па-беларуску, хаця насамрэч было наадварот.

Пасля мы пасябравалі, а ён, Аляксандр Сямёнавіч Махнач, стаў потым віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР. Ён да самага канца свайго — а памёр ён амаль у 88 гадоў — так заўсёды і гаварыў па-руску, але з заўважным беларускім акцэнтам.

### Вяртанне на Радзіму

Першы раз я пабачыў Беларусь у 1961 годзе, калі мы з бацькам і з братам утрох прыехалі ў Беларусь на сваёй машыне з Масквы. У Магілёве жыў мой дзядзька, бацькаў брат Парфір. Спачатку мы паехалі да яго, а потым па ўсёй Беларусі. Нам вельмі спадабалася ўсё: людзі, мясціны, прырода. Адзінае, што нас здзівіла, — гэта што зусім мала было беларускай мовы. Мы ў Маскве паміж сабой па-беларуску, а сюды прыехалі… Калі мы ў Магілёве заходзілі, напрыклад, у краму і паміж сабой размаўлялі па-беларуску, то людзі адно аднаго штурхалі: "Во! Пісьменнікі да нас прыехалі". Гэта нас моцна ўразіла. Мы спадзяваліся пачуць мову, а тут высвятляецца, што толькі пісьменнікі ў нас па-беларуску і размаўляюць! З аднаго боку, была радасць сустрэчы з Беларуссю, а з іншага — такая горыч і непрыемнасць у душы, што беларускай мовы зусім мала вакол.

Але я на Радзіму вярнуўся.

Бацьку КДБ не дазваляла сюды вяртацца як "ворагу народа", мне — як сыну "ворага народа". Былі розныя спробы, бацька ўвесь час імкнуўся вярнуцца хутчэй, але не атрымлівалася. Ён вярнуся толькі ў 1969 годзе. Яго аднавілі ў званні акадэміка (яму былі скасавалі гэтае званне, а пасля рэабілітавалі "за адсутнасцю

*Пачатак. Працяг на с. 5*

# РАДЗІМ ГАРЭЦКІ: ДАЙСЦІ ДА БЕЛАРУСКАЙ БЕЛАРУСІ

*Працяг. Пачатак на с.4*

складу злачынства", то бок ён быў ні ў чым не вінаваты). Бацьку рэабілітавалі ў 1958 годзе, Максіма Гарэцкага — у 1959-м (пасмяротна), але бацьку дазволілі вярнуцца толькі праз 10 гадоў.

Я жыў у Маскве, мусіць, гадоў дваццаць, прычым у мяне была добрая праца ў Геалагічным інстытуце Акадэміі навук СССР. Гэта адзін з найлепшых інстытутаў, і ў мяне былі вялікія перспектывы, але бацька сказаў: "Давай едзь сюды". Ён жа толькі гадоў у 70 вярнуўся на Радзіму. Ну, а я ў 1971-м вярнуўся, у снежні. Мяне запрасіў прэзідэнт Акадэміі навук БССР, Мікалай Аляксандравіч Барысевіч.

Так што амаль 40 гадоў я быў у Расіі, але беларускія карані і гены жылі, і я тут вельмі хутка адчуў, што я ў сваёй хаце. Гады разам з бацькам і маці на Радзіме былі для нас самымі добрымі і светлымі ва ўсіх адносінах: у працоўных і творчых, з асалодай ад беларускіх тэатраў, філармоніі, музеяў, сяброўства з пісьменнікамі, ад роднай прыроды і інш.

**Любімая прафесія**

У горадзе Чусавым, дзе мы жылі з бацькам, цячэ горная рака Чусавая. Яна вельмі бурлівая. Неяк мы спусціліся з бацькам па гэтай рацэ на плыце і ледзь не затанулі. Там увогуле шмат хто загінуў, на Чусавой. Самае важнае — не стукнуцца аб скалу. Вада б'е ў яе вельмі моцна, там самая глыбіня і страшныя віры. Але нас Бог мілаваў. Мне так спадабалася тая вандроўка, ды яшчэ бацька мне тое-сёе расказваў пра геалогію, што ўжо з восьмага класа я досыць свядома вырашыў зрабіцца геолагам. Тады было іншае стаўленне да геалогіі, гэта была вельмі паважаная і рамантычная прафесія, да якой усе імкнуліся. Цяпер больш прэстыжна быць прадпрымальнікам. Вельмі важна правільна выбраць прафесію. Некаторыя кажуць мне: "Як ты да гэтага часу працуеш? Можна ўжо і адпачываць!" Але мне падабаецца мая прафесія. Гэта вельмі важна. Я, калі выкладаў студэнтам, казаў: "Падумайце, самае важнае — адразу правільна выбраць прафесію, каб яна да самага канца жыцця вам вельмі падабалася, каб праца для вас была не нечым прымусовым, а радасным. Каб ішлі на працу як на свята". У мяне так і атрымалася, так што я вельмі задаволены, што стаў геолагам.

**Жыццёвы меланж**

Сёлета ў мяне выйшла кніга "Лісты жыцця і кахання", дзе я сабраў лісты маіх бацькоў. Іх каханне было надзвычай моцнае і трывалае, і ў лістах яны выказвалі свае пачуцці адно да аднаго. Лістоў у бацькі і маці амаль тысяча, а можа і больш. Яны вельмі цікавыя. Многія я ўжо друкаваў. А тут я сабраў лісты, дзе яны гавораць пра сваё каханне і пра жыццё.

Цяпер да друку рыхтуецца зусім іншая кніга (*Кніга ўжо выйшла, аб ёй чытайце на с. 8 - Рэд.*). Рэч у тым, што я даўно пачаў пісаць пра выдатных геолагаў, такіх як Чэрскі, Вярнадскі, рабіў даклады. Потым пісаў пра свайго настаўніка, знаёмых геолагаў, затым пра сваіх знаёмых пісьменнікаў, асабліва ў сувязі з юбілеямі, а потым, калі пачалася перабудова і я пачаў займацца грамадскай дзейнасцю, то выступаў на розных з'ездах, на Днях Незалежнасці. І неяк аднойчы да мяне звярнулася Галіна Тварановіч. Яна літаратуразнаўца, доктар навук, прафесар. Яна папрасіла, каб я напісаў што-небудзь у часопіс "Тэрмапілы" (Беласток). Я напісаў, ёй гэта спадабалася, і яна ў далейшым прапанавала, каб я дасылаў яшчэ.

Я дасылаў у часопіс свае назіранні, успаміны — такія мініяцюры, і ўрэшце я задумаўся: а што гэта такое, тое, што я пішу? Трэба гэтаму даць нейкую назву. І я падумаў, што гэта меланж, жыццёвы меланж. Увогуле меланж — гэта сумесь. Ёсць такі панятак у геалогіі. Калі адна глыба зямной кары насоўваецца на другую, то між імі ўтвараецца сумесь розных парод. Цікавы атрымліваецца колер, вельмі прыгожая парода. А яшчэ панятак "меланж" ёсць у ткацтве — калі ніткі рознага колеру ствараюць стракатасць. Так з'явілася назва для маіх зацемак — "Жыццёвы меланж". Галіна Тварановіч нават напісала артыкул "Меланж Радзіма Гарэцкага" пра гэтыя мае публікацыі. Урэшце іх набралася шмат, і Галіна Тварановіч сказала, што час ужо сабраць гэта ў кніжку. Я пагадзіўся, а тут і юбілей мой праспеў.

З выданнем вельмі дапамагла "Бацькаўшчына" і Ніна Шыдлоўская з Аленай Макоўскай у прыватнасці. Яны і раней мне дапамагалі з выданнем кнігі "Браты Гарэцкія".

Новая кніга хутка выйдзе. Там будуць і здымкі. Паколькі гэта "меланж" маіх уражанняў і пачуццяў, я туды змясціў свае здымкі разам з людзьмі, пра якіх пішу. Я вельмі ўдзячны і Галіне Тварановіч, і "Бацькаўшчыне", і Ніне Шыдлоўскай, і Алене Макоўскай, без якіх гэтай кніжкі не было б.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.by*

*Фота Аляксандра Ждановіча*

НАВІНЫ

## ВЯРТАННЕ ПАЭТА УЛАДЗІМІРА НЯКЛЯЕВА

У Варшаве адбылася прэзентацыя новай кнігі творцы "Знакі прыпынку". На вечарыне, якая доўжылася больш за гадзіну, паэт расказваў пра сваё жыццё, чытаў свае творы. Прысутныя змаглі паслухаць пераклады твораў Уладзіміра Някляева на польскую мову, якія рабілі вядомы перакладчык з беларускай на польскую Чэслаў Сэнюх ды Старшыня польскага ПЭН-цэнтра, перакладчык Адам Паморскі. У мерапрыемстве брала ўдзел літаратар Валярына Кустава. Як зазначае паэт Уладзімір Някляеў, самыя добрыя вершы тыя, якія прыходзяць самі.

Пасля сустрэчы прысутныя мелі магчымасць набыць кнігі паэта, а таксама атрымаць гарачыя аўтографы ад аўтара.

*Паводле "Беларускае Радыё Рацыя"*

## ПРА РАЗГОН ПЛОШЧЫ-2010 НАГАДАЛІ АКЦЫЯМІ

Акцыі былі прымеркаваная да трэціх угодкаў разгону ў Мінску мірнай дэманстрацыі пратэсту супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў.

19 снежня ў Познані на Плошчы Вольнасці беларусы заклікалі спыніць рэпрэсіі ў краіне. Акцыя салідарнасці прайшла таксама ў Варшаве. У Кіеве беларусаў падтрымалі ўкраінцы, якія разам з імі прыйшлі да беларускага пасольства, дзе перадалі яго работнікам зварот. "Гэта акт дэ-манстрацыі салідарнасці з цяперашнім Майданам, які адстойвае еўрапейскі шлях, з беларускай Плошчай", – кажа адзін з арганізатараў акцыі, Вячаслаў Сіўчык.

У той жа дзень, 19 снежня, у канадскім Таронта, каля Музея хакейнай славы прайшоў пікет супраць правядзення ў Беларусі чэмпіянату свету па хакеі, арганізаваны Згуртаваннем беларусаў Канады. Пікет быў таксама прымеркаваны да трэцяй гадавіны разгону Плошчы ў Мінску.

Аналагічныя акцыі адбыліся таксама ў гарадах ЗША: Вашынгтоне, Лос-Анджэлесе, Нью-Ёрку, Маямі ды Філадэльфіі. Акрамя таго, 22 снежня ў грамадска-культурнай зале Сабора св. Кірылы Тураўскага Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, што ў Нью-Ёрку, адкрылася фотавыстава, прысвечаная падзеям беларускай Плошчы-2010. Выставу арганізавалі "Беларусы ў выгнанні" ды БАЗА.

*Паводле матэрыялаў "Радыё Свабода", "Беларускага Радыё Рацыя" і "Еўрарадыё", а таксама прэс-службы БАЗА*

# ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР “БЯЗМЕЖЖА” АДБЫЎСЯ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

13–15 снежня на Беласточчыне ў Польшчы адбыўся чарговы літаратурны семінар “Бязмежжа”. Яго нязменнымі галоўнымі арганізатарамі сталіся тыднёвік “Ніва” ў асобе рэдактара спадара Яўгена Вапы і Беларускі саюз у Польшчы.

На запрашэнне беларусаў Беласточчыны з Беларусі прыехалі некалькі дэлегацыяў і паасобных творцаў.

З Мінска завіталі Старшыня грамадскага аб’яднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў”, рэдактар часопіса “Дзеяслоў”, празаік Барыс Пятровіч; першы намеснік старшыні ГА “СБП”, рэдактар “Літаратурнай Беларусі”, празаік Алесь Пашкевіч; прэсавы сакратар СБП, паэтка Віка Трэнас; памочнік старшыні СБП, літаратар Усевалад Сцебурака. З Гародні, якая здаўна падтрымлівае сталыя align рознабаковыя кантакты з беластоцкай беларускай грамадой, адзначыліся ўдзелам: актыўны грамадскі дзеяч, карэспандэнт і каардынатар выдавецкай серыі “Гарадзенская бібліятэка” Павал Мажэйка, празаік Віктар Сазонаў, вядомы пісьменнік і журналіст Сяргей Астравец.

Таксама на сустрэчы прысутнічаў адзін са стваральнікаў “Таварыства



*Віктар Стахвюк*

вольных літаратараў”, пісьменнік Алесь Аркуш, журналістка і перакладчык Іна Хоміч з Берасця.

На правах гаспадароў гасцей сустракалі рэдактар “Нівы” Яўген Вапа, стваральнік і адміністратар Беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org Яраслаў Іванюк, гісторык Алена Глагоўская, старшыня фонду “Villa Sokrates” Павал Гжэсь, беластоцкі тэлерадыёжурналіст Радаслаў Дамброўскі, літаратурны публіцыст, літаратарка Ганна Кандрацюк, супрацоўніца “Нівы”, пісьменніца Міраслава Лукша, пісьменнік Віктар Швед, праграмны дырэктар Радыё “Рацыя” Юрка Ляшчынскі, пісьменнік Віктар Стахвюк, пісьменнік Міхась Андрасюк, маладая паэтка Кася Сянкевіч, гісторык Яўген Янчук, а таксама прадстаўнікі беластоцкага выдавецтва “Суседзі” Андрэй Каліноўскі і Пётр Брысач.



*Віктар Швед*

Абодва бакі выступілі са справаздачамі аб зробленай працы на культурніцкай ніве. Сярод іншага асабліва цікавымі сталіся даклады Яраслава Іванюка аб дзейнасці найвялікшай на сёння Беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org; справаздача Барыса Пятровіча аб працы часопіса “Дзеяслоў”, яго бібліятэчкі ды вялікай выдавецкай серыі “Кнігарня пісьменніка”; прэзентацыя “Гарадзенскай бібліятэкі”.

Асобнае месца занялі дэманстрацыі дакументальных стужак фонду “Villa Sokrates”, прысвечаныя апошнім месяцам жыцця Сакрата Яновіча ды дзейнасці фонду, фільмы Радаслава Дамброўскага пра Віктара Шведа і Міколы Ваўранюка “Людвіка” – пра дзейнасць Сяргея Вітушкі і Людвікі Кардзіс у Вільні.

У заключнае частцы праграмы семінару адбыліся аўтарскія прэзентацыі Барыса Пятровіча з апошняй кнігай “Спачатку была цемра”, Алеся Пашкевіча з раманам “Сімъ победиши”, Віктара Сазонава з кнігай “Паэзія прозы”, прагучалі вершы Вікі Трэнас і Усевалада Сцебуракі.

Усе сустрэчы адбываліся ў найцяплейшай сяброўскай атмасферы. Абодва бакі атрымалі запас пазітыўных уражанняў, а беларусы ў чарговы раз пераканаліся, што межы дзяржаваў не ствараюць межаў для сяброўства і што там, на другім баку Белавежскай пушчы, жывуць людзі, якія хочуць быць беларусамі значна больш, чым многія нашыя суайчыннікі.

*Прэсавая служба СБП*
*Фота Іны Хоміч*

# СЛОВА НА КАЛЯДЫ АД АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА

З нагоды свята Божага Нараджэння Апостальскі візітатар для беларусаў грэка-католікаў замежжа айцец Аляксандр Надсан звярнуўся да вернікаў.

“Як гляну на неба, твор рук Тваіх, на месяц і зоркі, якія Ты стварыў, дык хто ёсць чалавек, што Ты памятаеш пра яго, і сын чалавечы, што Ты пра яго дбаеш?“ (Пс 8:4-5)

Гэтыя словы псалма добра перадаюць пачуцці чалавека, які, узіраючыся на веліч Божага тварэння, стараецца зразумець, чаму Бог прыдае так шмат увагі такой нязначнай істоце, як чалавек.

Падсвядома аўтар адчувае, што ў плане Божага тварэння чалавек займае асаблівае, хоць яшчэ не зусім для яго зразумелае, месца.

Гэты план Божы знайшоў сваё завяршэнне ў падзеі, памяць якой мы святкуем і пра якую святы Павал сказаў: “Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Сына Свайго, народжанага ад Дзевы, народжанага пад законам, каб мы маглі атрымаць усынаўленне...“ (Гал 4:4-5).

Іншымі словамі, Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос стаў чалавекам, адным з нас, каб даць нам магчымасць стаць дзецьмі Божымі, удзельнікамі Боскага жыцця.

Нам давялося бачыць і дасведчыць розных людскіх спробаў зрабіць нас “шчаслівымі“, не пытаючыся нашай згоды. Нашыя “дабрачынцы“ думаюць, што ведаюць лепш за нас, што нам трэба для шчасця. І калі мы з імі не згаджаемся, яны не супраць ужыць сілу, каб нас, неразумных, ашчасліваць. Вынікі іх “дабрачыннай“ дзейнасці нам добра вядомыя.

Не так Бог. Таму Ён з уласнай волі прыйшоў на свет, як малое бездапаможнае дзіцятка, якое не толькі не пагражала нікому, але мела патрэбу ў нашай дапамозе і спагадзе. Пасля, у дарослым веку, Ён адмовіцца ад ужывання сілы і не будзе абяцаць “неадкладнага шчасця“, але скажа: “Прыйдзіце да Мяне, усе стружданыя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо я ціхі і пакорнага сэрца, і знойдзеце супакой для душаў вашых. Бо ярмо маё прыемнае, і цяжар мой лёгкі“ (Мц 11:28-30). Іншымі словамі, Ён абяцаў тым, што пайшлі за ім, не вызваленне ад цяжкасцяў, але даць сілу пераносіць іх.

Вось гэтай сілы духоўнай, каб перанесці цяжкасці жыццёвыя і не заламацца, хай Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос, чыё нараджэнне ў целе сёння радасна святкуем, дасць нам усім.

*а. Аляксандар Надсан,*
*“Радыё Свабода“*

# ГАЛІНА ТВАРАНОВІЧ: БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ МУСІЛА Б БЫЦЬ СІМВАЛАМ УНІВЕРСІТЭТА Ў БЕЛАСТОКУ

Размова з прафесаркай Галінай Твараловіч, кіраўніцай кафедры беларускай філалогіі філалагічнага факультэта Універсітэта ў Беластоку. Нагодай для размовы стала нядаўняе паведамленне, што дэкан Філалагічнага факультэта прыняў пастанову прыпыніць набор студэнтаў на Кафедру беларускай філалогіі ў сувязі са слабым зацікаўленнем гэтай спецыялізацыяй сярод патэнцыйных студэнтаў. Калі так адбудзецца, згаданай кафедры ў Беластоку – адной з нешматлікіх установаў за мяжой, дзе вывучаюць беларускую мову на ўніверсітэцкім узроўні, – можа пагражаць ліквідацыя.

**"Радыё Свабода"**: Калі было прынятае рашэнне аб спыненні набору на беларускую філалогію ў Беластоку і што галоўным чынам паўплывала на яго?

**Галіна Тварановіч**: Канкрэтна 29 лістапада дырэктар Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі, прафесар Супа, паведаміла аб тым, што дэкан вырашыў прыпыніць набор на беларускую філалогію ў наступным навучальным годзе. Потым гэтую сумную навіну пацвердзіў дэкан Філалагічнага факультэта, прафесар Нававейскі. І ён дадаў, што акрамя прыпынення набору студэнтаў у наступным годзе, маецца на ўвазе ліквідацыя гэтага кірунку – беларуская філалогія – ва Універсітэце ў Беластоку. Ён абгрунтаваў гэта эканамічнымі прычынамі – тым, што ўніверсітэт апынуўся ў цяжкіх фінансавых умовах і што трэба эканоміць на ўсім, на чым магчыма. А беларуская філалогія, маўляў, такі нерэнтабэльны кірунак, на які набіраецца няшмат студэнтаў, і праца кафедры беларускай філалогіі ў сувязі з гэтым таксама не апраўдвае сябе.

Але я хачу адразу падкрэсліць, што наша кафедра, якая сёлета адзначыла сваё 20-годдзе, сёлета паспяхова прайшла гэтак званую параметрызацыю і выйшла на другое месца ў Інстытуце ўсходняй філалогіі, што тычыцца ацэнкі нашага навукова-дыдактычнага ўзроўню. А тое, што ў гэтым годзе, на вялікі жаль, у нас няма першага курса, звязана, пэўна ж, і з дэмаграфічнымі прычынамі, з тым дэмаграфічным "нізам", які ўвайшоў у Польшчу ў апошнія гады. На іншых кірунках і факультэтах таксама ёсць праблемы з наборам студэнтаў. Але гэта не з'яўляецца падставай для ліквідацыі беларускай філалогіі, якая мусіла б быць сімвалам Універсітэта ў Беластоку, таму што дзе ж як не на Беласточчыне, дзе кампактна пражывае беларуская нацыянальная меншасць, быць вышэйшай беларускай філалагічнай адукацыі?

Мы ўсё ж спадзяемся, што рэктар універсітэта падкарэктуе заяву дэкана і вырашыць захаваць беларускую філалогію, тым больш што філалогіі іншых нацыянальных і этнічных меншасцяў у Польшчы – лэмкаў, кашубаў, немцаў – таксама карыстаюцца падтрымкай дзяржавы.

**РС**: Вы сказалі, што ваша кафедра існуе ўжо 20 гадоў. А як было са студэнтамі ў мінулых гадах?

**Галіна Тварановіч**: Беларуская філалогія за гады свайго існавання выпусціла каля 200 магістраў і каля 20 ліцэнцыятаў... Цяпер на кафедры працуе малады і вельмі перспектыўны калектыў, і важна падкрэсліць, што ў асноўным – гэта выпускнікі беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку...

**РС**: А колькі студэнтаў вам трэба было б набіраць штогод, каб улады ўніверсітэта не выстаўлялі вам прэтэнзій адносна малой зацікаўленасці кірункам?

**Галіна Тварановіч**: Цяпер кажуць, што адна група мусіць мець не менш за 30 студэнтаў на кожным кірунку ва ўніверсітэце. Зразумела, што 30 студэнтаў для беларускай філалогіі – гэта цалкам немагчыма. У нас цяпер 29 студэнтаў на трох курсах. Гэта цалкам няблага, як нядаўна сказаў нам прадстаўнік Міністэрства адміністрацыі і цыфрызацыі, калі параўноўваць нашу сітуацыю з сітуацыяй філалогій іншых нацыянальных меншасцяў у Польшчы... Для філалогій нацыянальных меншасцяў трэба ўстанавіць нейкі рэальна дасягальны ўзровень студэнтаў...

**РС**: Я сёлета быў на семінары ў Інстытуце русінскай мовы і культуры ў Прэшаве ў Славаччыне. Там у іх прыблізна па пяць студэнтаў на курсе, і ніхто не збіраецца ліквідаваць гэты інстытут. Дарэчы, славацкія русіны спалучаюць навучанне русінскай мовы з іншымі спецыялізацыямі. У іх там выходзяць спецыялісты, прыкладам, па русінскай і ангельскай мовах. Вы так не спрабавалі ў Беластоку?

**Галіна Тварановіч**: У нас таксама беларуская спалучаная з ангельскай. І апошнія пяць гадоў мы трымаліся цалкам няблага. Набіралі па 10-15 чалавек на першы курс. Але сёлета – магчыма, з увагі на дэмаграфічны "ніз" і на пэўную насычанасць ангельскай мовай – гэтая тактыка не спрацавала...

Але не менш істотны момант – гэта тое, каб беларускае асяроддзе на Падляшшы добра падумала, як працаўладкоўваць выпускнікоў беларускай філалогіі... Я запыталася ў аднаго са сваіх студэнтаў, які закончыў філалогію гадоў 10 таму, чаму, паводле яго, тады не было праблемаў з наборам. Ён мне адказаў, што тады ішлі на філалогію тыя, якія сапраўды былі пакліканыя, якія ішлі з патрэбы сэрца і з патрэбы свайго светапогляду...

**РС**: На вашу думку, ці ўплывае на зацікаўленасць беларушчынай на Падляшшы сітуацыя беларушчыны ў Рэспубліцы Беларусь, ці гэта не мае вялікага значэння?

**Галіна Тварановіч**: Пытанне, пэўным чынам, правакацыйнае. Вы самі разумееце, што мае. Яшчэ як мае! Зразумела, што сітуацыя, у якой беларуская мова аказалася ў значнай ступені падчаркай на сваёй радзіме, не можа не ўплываць на тое, якія адносіны да яе і ў Польшчы агулам, і на Падляшшы ў прыватнасці. Гэта вельмі балючая тэма, і гэтая тэма гучыць ужо з другой паловы мінулага стагоддзя...

*"Радыё Свабода"*

НАВІНЫ

# ЯНКА СЫЧЭЎСКІ ПЕРААБРАНЫ СТАРШЫНЁЙ БКГТ

Янку Сычэўскага пераабралі старшынёй Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. У сядзібе БГКТ у Беластоку дэлегаты сямнаццатага выбарчага з'езду выбралі кіраўніцтва таварыства на чарговыя чатыры гады.

Паводле нова-старога старшыні, планы на будучую дзейнасць таварыства залежныя ад фінансавання з боку Польскай дзяржавы: "Галоўныя напрамкі і галоўныя мерапыемствы вызначае міністэрства. Але ёсць такія мерапрыемствы, якія арганізуем з самаўрадамі. Нашы планы будуць рэалізавацца нават у шырэйшым маштабе, чым да гэтай пары, бо ў наступным годзе мы ўпершыню будзем арганізоўваць фестываль сямейных калектываў".

Паводле рашэння дэлегатаў на пасадзе намесніка старшыні БГКТ застаецца таксама мовазнаўца доктар Васіль Сегень. Сакратаром галоўнага праўлення таварыства будзе, як дагэтуль, Валянціна Ласкевіч. У выбарчым з'ездзе ўдзельнічала пяцьдзесят два дэлегаты з Гайнаўскага, Бельскага, Сямятыцкага і Беластоцкага паветаў.

Ганаровымі гасцямі з'езду БГКТ былі амбасадар Беларусі у Польшчы Віктар Гайсёнак і генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку - Аляксандар Берабеня. Беларускае грамадска-культурнае таварыства - найстарэйшая арганізацыя, якая абядноўвае беларусаў у Польшчы.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

# "ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ" РАДЗІМА ГАРЭЦКАГА




Перапляценне лёсаў і падзеяў, убачанае праз прызму сваіх адчуванняў – гэта жыццёвы меланж выбітнага Беларуса – Радзіма Гарэцкага. І гэтым ён дзеліцца з усімі намі ў кнізе нарысаў, эсэ, мініяцюр-назіранняў ды лірычных зацемак, якая пабачыла свет літаральна гэтымі днямі ў выдавецтве "Кнігазбор" па замове МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

"Жыццёвы меланж" – чаму аўтар абраў такую назву для сваёй кнігі? Адказ мы знойдзем у яго прадмове. Як вядома, Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі – не толькі беларускі грамадскі дзеяч, але і слынны беларускі геолаг, акадэмік НАН Беларусі, які вельмі любіць сваю прафесію. Таму нядзіўна, што для вызначэння жанраў сваіх твораў ён пазычыў паняцце з гэтай цікавай навукі – геалогіі. Там меланж абазначае геалагічнае цела, складзенае з разнастайных парод, якое мае досыць цікавую структуру і спалучае самыя розныя колеры. Такі меланж утвараецца пры стрэсавых з'явах, напрыклад, калі адзін вялікі блок зямной кары насоўваецца на іншы. Але гэта – меланж геалагічны, а жыццёвы меланж – гэта адлюстраванне ўсяго, што было важным у жыцці, што знайшло свой адбітак у нашай памяці.

Выданне гэтай кнігі сталася сапраўды выдатнай падзеяй, якою адзначыўся юбілейны для Радзіма Гарэцкага месяц: 7 снежня яму споўнілася 85 гадоў. Матэрыял для гэтага грунтоўнага 648-старонкавага тома пісаўся цягам апошніх 20 гадоў, хаця першапачаткова ў выглядзе кнігі не планаваўся. Ідэя ж зрабіць кнігу належыць Галіне Тварановіч, якая разам з Янам Чыквіным цягам некалькіх гадоў публікавала лірычную прозу Радзіма Гарэцкага на старонках часопіса "Тэрмапілы" і заахвочвала яго на напісанне новых твораў.

У кнізе таксама змешчаныя здымкі Радзіма Гарэцкага разам з тымі людзьмі, пра якіх ён піша. А гэта цэлы шэраг выдатных постацяў: беларускіх геолагаў, пісьменнікаў, грамадскіх, палітычных, культурных дзеячаў… Сярод асобаў, якім прысвечаныя творы кнігі: Іван Чэрскі, Максім Танк, Іван Мележ, Заір Азгур, Алесь Адамовіч, Адам Бабарэка, Барыс Кіт, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Аляксандр Махнач, Пётра Садоўскі, Станіслаў Шушкевіч, Хведар Нюнька, Генадзь Бураўкін, Леанід Лыч, Уладзімір Пузыня, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Міхась Чарняўскі ды многія, многія іншыя.

Гэтая кніга будзе цікавая самаму шырокаму колу чытачоў. Неўзабаве яна з'явіцца ў крамах Мінска і іншых гарадоў Беларусі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## АБВЕСТКА

### УВАГА: САЙТ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!" ЗМЯНІЎ АДРАС НА BUDZMA.BY

Шаноўнае спадарства!

Адрас сайта грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" зменены з budzma.org на budzma.by!

Змены адбыліся ў сувязі з тым, што зламыснікі захапілі кіраванне даменам budzma.org.

Спадзяемся, што найбліжэйшым часам праблемы будуць вырашаныя. А пакуль шукайце нас па адрасе budzma.by. Выбачаемся за нязручнасці і чакаем на сайце budzma.by!

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА СТУДЗЕНЬ 2014 ГОДА

1 студзеня – 95 гадоў таму, у 1919-м, у Вільні заснавана беларуская гімназія.

1 студзеня – 85 гадоў таму, у 1929-м, у Менску адкрылася Беларуская акадэмія навук.

6 студзеня – 100 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Тодар Лебяда (сапр. Пятро Шырокаў; г. Віцебск). Пісьменнік, дысідэнт, вязень ГУЛАГу. Памёр у пач. 1970 г.

6 студзеня – 95 гадоў таму ў маёнт. Ясны Лес на Бабруйшчыне нарадзілася Аўгіння Каранеўская (дзявоч. Воўк-Левановіч; 1919–1983), настаўніца, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

6 студзеня – 10 гадоў таму ў Нью-Ёрку (ЗША) памёр Янка Юхнавец (1921–2004), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

7 студзеня – Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары.

10 студзеня – 65 гадоў таму трагічна загінуў Міхаіл Сазыка (1895–1949), вайсковец, спявак, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

10 студзеня – 10 гадоў таму памёр Алесь Усюкевіч (1925–2004), настаўнік, адзін з кіраўнікоў Саюза Вызвалення Беларусі ў Наваградку, вязень савецкіх турмаў.

11 студзеня – 90 гадоў таму, у 1924-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Беларуская доля", органа Беларускага пасольскага клуба (выдавалася да 22 траўня 1925 г., выйшла 36 нумароў, забаронена польскімі ўладамі). Рэдактар Антон Пракапенка.

17 студзеня – 10 гадоў таму памёр Віталь Кажан (1916–2004), грамадскі і вайсковы дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны ў Стэмфардзе (Канектыкут, ЗША).

19 студзеня – 70 гадоў таму каля Беластока польскімі падпольшчыкамі жорстка закатаваны Мікола Чарнецкі (1899–1944), публіцыст, педагог, грамадскі дзеяч.

23 студзеня – 125 гадоў таму ў Чылі памёр Ігнат Дамейка (1802–1889), удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, філамат, геолаг, мінеролаг, нацыянальны герой Чылі.

26 студзеня – 20 гадоў таму ў Маскве памёр Алесь Адамовіч (1926–1994), пісьменнік, грамадскі дзеяч. Пахаваны ў в. Глуша Бабруйскага р-на.

29 студзеня – 130 гадоў таму нарадзіўся Антон Луцкевіч (г. Шаўлі, цяпер Шаўляй, Літва; 1884–1942), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, старшыня ўрада БНР.

31 студзеня – 85 гадоў таму, у 1929-м, у Мінску нарадзіўся Анатоль Грыцкевіч, прэзідэнт МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" (2001–2005), доктар гістарычных навук, прафесар.

**Беларусы ў свеце**
№12(140), снежань 2013

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27